# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№1 (260)
студзень 2024

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"


**У НУМАРЫ:**

## Рада БНР заклікае шырока адзначыць 100-гадовы юбілей Васіля Быкава

19 чэрвеня 2024 года спаўняецца 100 гадоў з дня народзінаў Васіля Быкава. З гэтай нагоды Рада Беларускай Народнай Рэспублікі звярнулася да беларусаў з заклікам шырока адзначыць гэтую дату "ды прадэманстраваць нашую еднасць у абароне нацыянальных каштоўнасцяў".

Старонка 3

## ЕГУ хочуць прызнаць экстрэмісцкай арганізацыяй

Апошнія заявы прапагандыстаў гучаць дакладна не на карысць значнай часткі беларускай дыяспары ў Літве – студэнтаў і выкладчыкаў Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Іх, больш за 1600 чалавек, раскіданых у тым ліку і па іншых краінах, цяпер абяцаюць дадаць у спіс экстрэмістаў. Чым гэта небяспечна, і ці сутыкаюцца беларусы ды беларускі з ціскам праз навучанне ў "недружалюбнай" установе адукацыі?

Старонка 4



# СУЗАСНАВАЛЬНІЦЫ "БЕЛАРУСАЎ ШВЕЦЫІ" ГАЛІНЕ КРАСНЯНСКАЙ ДАЛІ 5 ГАДОЎ КАЛОНІІ

У Мінскім гарадскім судзе больш за тыдзень працягваўся судовы працэс над 67-гадовай Галінай Краснянскай (Коваль). Жанчыну абвінавацілі паводле ч. 2 арт. 361-1 Крымінальнага кодэкса і хутчэй за ўсё за ахвяраванні беларускім добраахвотнікам або на дапамогу Украіне.

Суд пачаўся 4 студзеня, суддзя – Алена Ананіч.

Галіна Андрэеўна доўгі час жыла ў Швецыі, была адной з з заснавальніц афіцыйнай суполкі беларускай дыяспары, актыўна ўдзельнічала ў яе жыцці. Пры гэтым перыядычна вярталася ў Беларусь да сваякоў. У адзін з такіх прыездаў, імаверна вясной 2023 года, яе затрымалі ў Мінску.

Да шлюбу Галіна мела прозвішча Коваль. Яна нарадзілася ў Бабруйску, у вайсковым гарадку Кісялевічы. Некалі там быў буйны ваенны гарнізон і школа была створаная акурат для дзяцей вайскоўцаў. У незалежнай Беларусі працавала спачатку ў вайсковай частцы, а пасля інжынерам у прыватнай фірме.

12 студзеня Краснянскай быў вынесены прысуд.

Як паведамляе тэлеграм-канал дыяспары ў Швецыі Sveriges Belarusier, суд прысудзіў ёй пяць гадоў пазбаўлення волі.

spring96.org

**НЕ ВАЙНЕ!**

**ВЫ МОЖАЦЕ ДАПАМАГЧЫ**

**навіны**

# ЖОНКУ ПАЛІТВЯЗНЯ СТАТКЕВІЧА МАРЫНУ АДАМОВІЧ АРЫШТОЎВАЛІ НА 15 ДЗЁН

Пра затрыманне жонкі палітзняволенага Мікалая Статкевіча Марыны Адамовіч стала вядома 23 студзеня.



Марыну Адамовіч арыштавалі на 15 сутак. Такое пакаранне паводле арт. 19.1 КаАП ("Дробнае хуліганства") жонцы экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча прызначыў суд Заводскага раёна Мінска.

Марыну Адамовіч затрымалі падчас рэйду супрацоўнікаў КДБ.

23 студзеня па ўсёй Беларусі адбыліся масавыя затрыманні. Праваабаронцы налічылі сама меней 84 выпадкі.

9 студзеня яна напісала ў Facebook, што ўжо 11 месяцаў не атрымлівала ніякай інфармацыі пра мужа.

У гэты ж дзень стала вядома, што Статкевіч, які адбывае пакаранне ў папраўчай калоніі № 13 (Глыбокае, Віцебская вобласць), змешчаны ў памяшканне камернага тыпу (ПКТ).

Аб'яднанне былых сілавікоў ByPol паведаміла, што адміністрацыяй калоніі Статкевіч "у мінулым годзе неаднаразова падвяргаўся дысцыплінарным спагнанням, акрамя таго, на яго сабраны матэрыял для крымінальнай справы паводле арт. 411 КК („Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы")".

Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" Мікола Статкевіч быў затрыманы 31 траўня 2020 года ў Мінску. 14 снежня 2021 году суд пакараў яго 14 гадамі пазбаўлення волі ва ўмовах асаблівага рэжыму паводле ч. 1 арт. 293 КК ("Арганізацыя масавых беспарадкаў").

31 траўня 2022 года Вярхоўны суд пакінуў вырак без змен. 20 чэрвеня таго ж году Статкевіч быў пераведзены з Гомельскага следчага ізалятара №3 у папраўчую калонію №13, адміністрацыя якой паставіла яго на ўлік як "схільнага да экстрэмізму", у жніўні змясціла на паўгода ў адзіночную камеру, у верасні – у штрафны ізалятар.

**svaboda.org**

# ЛЮБОЎ СЕВЯРЫНЕЦ: МОЙ ДЗЯДЗЬКА ПАВЕЛ

Аповед пра Паўла яго пляменніцы – Любы. Гэта каштоўныя ўспаміны пра дзяцінства, неад'емнай часткай якога быў дзядзька Павел.

У бабулі з дзядулем сцены завешаныя малюнкамі. У дзяцінстве я хадзіла ў прыцемку калідора, задраўшы галаву, і толькі зрэдчас, як дзядуля падымаў на рукі, магла ўвачавідкі паразглядаць цёмна-зялёныя галіны дуба ці цэглу старога касцёла, нарысаваныя каляровымі алоўкамі. Тады я зацікавілася жывапісам.

Калі дапамога дзядулі перастала быць мне патрэбнай, у вока стаў кідацца іншы рысунак: два цені ў профіль, што сядзяць на муры, адзін схілены да другога і нешта яму паведамляе. У руках таго – дрэўка, а на ім, па-над галовамі, чырванее сцяг. Тады жывапіс цікавіў мяне ўжо пастолькі-паколькі, хваляваў сюжэт.

Я не адразу даведалася, што тыя рысункі – дзядзькавы.

Для маленькай мяне дзядзька Павел быў ледзь не самай таямнічай фігурай у нашай сям'і, бо бачыла я яго, не дзіва, рэдка. Большасць маіх дзіцячых успамінаў датычная яго толькі пасрэдна, як тыя малюнкі на сценах, як кнігі на палічках у ягоным пакоі, фотаздымкі – у дзядулевым, штодзённыя бабуліны малітвы ці маміны расповеды. Цяпер такіх жа абдзеленых маленькіх дзяўчатак і хлопчыкаў у разы болей, чым было тады. Страшней за паўтары тысячы палітзняволеных толькі мільярды адабраных супольных хвілін і тысячы не створаных разам успамінаў. І ўсё адно, нягледзячы на перыядычны брак магчымасці бачыцца ўжывую, для мяне дзядзька быў і дагэтуль ёсць фігурай важнай і страшэнна ўплывовай.

Кожным разам ва Унорыцы распавядалі пра цудоўныя здольнасці дзядзькі кіраваць лодкай. Я чула тое дзясяткі разоў, але апынуцца ў чоўне пад кіраўніцтвам ягонай загартаванай лесапавалам рукі мне давялося толькі аднойчы. Тым разам мы ледзь не заблукалі на дзікім рачным востраве, але ніхто не хваляваўся: Павел як нічога-ніякага вышукваў пярліны ў кіпе засохлых мідый. Тады я вельмі захацела навучыцца майстэрству заўсёды ў любой незразумелай сітуацыі шукаць нешта добрае. І, вядома, кіраваць лодкай.

Некалі, відаць, тым самым летам, мы з братам Іллём захапіліся камянямі, а няма лепшага месца на падобнага кшталту захапленні, чым на дзікіх берагах Дняпра. Ну і нешта мы грэбаліся ў пляжным пяску, вялі, мабыць, нейкія сур'ёзныя гутаркі наконт навуковай вартасці таго ці іншага экзэмпляра, і ў нейкі пэўны момант да нас далучыўся дзядзька Павел. Вось тады ўсё стала сапраўды сур'ёзна: нашыя аскепачкі месяца аказаліся белай слюдою, а скамянелая костка дыназаўра – палявым шпатам. Ці знікла нашае дзіцячае захапленне пасля той цвярозай і жорсткай ацэнкі нашай здабычы? Наадварот, мы ў той жа дзень выправіліся ў экспедыцыю за дуброву, дзе некалі пракладвалі нафтаправод (а значыць, раскапалі зямны скарб), і верхаводзіў працэсам наш абраны галоўны геолаг. Седзячы сёлета на камяністым беразе ў Батумі, я з белай зайздрасцю азіралася на тамашніх мяне з братам – мецьпад рукою такую крыніцу інфармацыі! Так, камянямі я заглядаюся і далей.

Асоба дзядзькі Паўла як несумнеўнага аўтарытэта падмацоўвалася яшчэ і тым, што ён размаўляў на нязвыклай для маленькай пяцігадовай мяне мове.

Маімі першымі беларускімі словамі былі, пэўна, "смачна есці" і "дзякуй вялікі". Хтосьці навучыў, што сядаць за стол з дзядзькам Паўлам без гэтага было як мінімум непрыгожа. І вось я, узброеная ўсяго толькі гэтымі двума выразамі, як



ночы баялася заставацца з дзядзькам сам-насам, без мамы на падхопе; бо што я зраблю з такім небагатым арсеналам? Толькі праз нейкі час мне патлумачылі, што гэта Павел размаўляе на беларускай, і, паводле бабулі, ён перайшоў на яе ў сваім адзінаццатым класе. Як я тады захапілася! Маленькая я паабяцала сабе таксама да свайго адзінаццатага класа здзейсніць такі подзвіг. Што рабілася ў той дзіцячай галаве? З якое прычыны тое дзяўчо так цвёрда і бескампрамісна паставіла сабе мэту, якую будзе памятаць на працягу стольких гадоў?

Ведаю толькі, што дзядзька мяне натхняў і працягвае натхняць кожны дзень. Ды што там, не мяне адну. Што ён падарыў мне вельмі шмат, нават, здаецца, пра тое не ведаючы. Пра мой невялічкі, зусім непараўнальны да ягоных падарунак – гэтыя словы – ён, пэўна, таксама не адразу даведаецца. Але тое не галоўнае, праўда ж?

**Любоў Севярынец, novychas.online**

Адрас для лістоў: Турма № 1. 230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1. Севярынец Павел Канстанцінавіч.

навіны

# РАДА БНР ЗАКЛІКАЕ ШЫРОКА АДЗНАЧЫЦЬ 100-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ ВАСІЛЯ БЫКАВА

19 чэрвеня 2024 года спаўняецца 100 гадоў з дня народзінаў Васіля Быкава. З гэтай нагоды Рада Беларускай Народнай Рэспублікі звярнулася да беларусаў з заклікам шырока адзначыць гэтую дату "ды прадэманстраваць нашую еднасць у абароне нацыянальных каштоўнасцяў".

"Быкаў узняў беларускую літаратуру на сусветны ўзровень і быў у першым шэрагу змагання за аднаўленне незалежнасці Беларусі, за нацыянальнае Адраджэнне. Ён не баяўся казаць праўду ў твар дыктатару і апошнія гады жыцця мусіў правесці на чужыне, – гаворыцца ў размешчаным на Facebook звароце. – Да гэтага часу ў сталіцы Беларусі, нягледзячы на шматгадовыя патрабаванні грамадскасці, няма ні вуліцы Васіля Быкава, ні помніка выбітнаму пісьменніку. Спыненыя і "быкаўскія дні" на


Івонка Сурвілла і Васіль Быкаў, сакавік 2003, Прага

ягонай малой радзіме, на Вушаччыне, якія штогод збіралі аматараў прыгожага пісьменства".

"Беларусь адродзіцца, калі не скарыцца чужой сіле", – прыгадваюць словы Васіля Быкава аўтары звароту.

"Пры сапраўды беларускай уладзе юбілей пісьменніка быў бы агульнанацыянальнай падзеяй, аднак цяперашні прамаскоўскі рэжым насаджае чужынскія святы", – падкрэсліваецца ў звароце.

Рада БНР адзначае, што пакуль памяць Васіля Быкава не ўшанаваная належным чынам на дзяржаўным узроўні, беларусы на Радзіме і ў замежжы маюць "і нагоду, і абавязак прадэманстраваць усяму свету "імя і сілу беларуса", увасобленую і ў постаці вялікага пісьменніка, і ў асобах найлепшых дачок і сыноў Беларусі, якія змагаюцца за яе свабоду."

budzma.org

# ЦІХАНОЎСКАЯ ПРА СМЕРЦЬ ПАЛІТВЯЗНЯ ВАДЗІМА ХРАСЬКО: РЭЖЫМ ПАСЛЯДОЎНА ЗНІШЧАЕ БЕЛАРУСАЎ

Дэмакратычная лідарка Святлана Ціханоўская пракаментавала смерць у калоніі палітвязня Вадзіма Храсько.

"Беларускіх палітзняволеных працягваюць забіваць у турмах, – напісала палітык у сваім тэлеграм-канале. – Сёння з'явілася інфармацыя, што ўслед за Вітольдам Ашуркам, Мікалаем Клімовічам і Алесем Пушкіным рэжым закатаваў Вадзіма Храсько".

Паводле слоў Ціханоўскай, для злачынцаў, што зрабілі гэта, чалавечае жыццё не мае сапраўднай вартасці.

"Зняволеным наўмысна не аказваюць медычную дапамогу, не перадаюць лекаў. Іх проста кідаюць паміраць. А з-за рэжыму інкамунікада нават нельга дазнацца пра іх рэальны стан – некаторым ужо многія месяцы не дазваляюць сустрэцца з адвакатам, весці ліставанні".

Сістэма, дадала дэмакратычная лідарка, "паслядоўна і наўмысна знішчае беларусаў". "Мы зробім усё магчымае, каб прыцягнуць да адказнасці тых, хто мае дачыненне да гэтых злачынстваў. Няма нічога больш істотнага за жыццё чалавека. І апраўдаць забойствы немагчыма", – падкрэсліла Ціханоўская.

"Я выказваю шчырыя спачуванні родным ды блізкім Вадзіма Храсько, – адзначыла яна. – І хачу нагадаць беларусам – няма розніцы, застаяцеся вы ў краіне, ці з'ехалі: дбайце пра тых, хто ў няволі. Пішыце лісты палітзняволеным, дапамагайце іх сем'ям, патрабуйце інфармацыю аб стане тых, хто знаходзіцца за кратамі. Бо сёння задача кожнага з нас – рабіць усё магчымае, каб людзі больш не гінулі ў турмах".

Пракаментавала трагедыю таксама прадстаўніца Аб'яднанага пераходнага кабінета Вольга Гарбунова.

Выказаўшы спачуванні родным і блізкім Вадзіма Храсько, яна адзначыла, што з яго смерцю немагчыма змірыцца.

"Яна асабліва ўразіла мяне дзвюма акалічнасцямі, – перадае словы Гарбуновай тэлеграм-канал кабінета. –

Першае. Вадзім быў асуджаны за садзейнічанне так званай "экстрэмісцкай дзейнасці". За некалькі данатаў. Ён проста хацеў пра кагосьці паклапаціцца, падтрымаў кагосьці грашыма, праявіў салідарнасць…

Другое. Ён памёр – паводле афіцыйнай версіі – ад пнеўманіі. Ад тыповага і вылечнага захворвання, нават у постпандэмійныя часы. Хоць і заўсёды ёсць магчымасць даць урачам паспрабаваць выратаваць чалавечае жыццё, гэтага не адбылося. Хутчэй за ўсё з-за таго, што Вадзім быў палітвязнем. І колькі ж яшчэ людзей, якіх змяшчаюць у ШІЗА і карцары, не ўлічваючы стан іх здароўя…"

Без медыцынскай дапамогі, падкрэсліла прадстаўніца АПК, "без элементарных бытавых рэчаў і цяпла, без нармальнай ежы ні ў аднаго чалавека не хопіць ніякіх фізічных сіл перажыць працяглае заключэнне".

На думку Гарбуновай, у самай вялікай рызыцы знаходзяцца "людзі з гуманітарнага спісу, у якіх вялікія праблемы са здароўем, якім патрэбная дапамога ўрачоў".

"У рызыцы знаходзяцца і людзі, якія сядзяць у турмах ад самага пачатку пратэстаў. Нават калі яны патрапілі ў турму адносна здаровымі, умовы ўтрымання ўжо падарвалі іх здароўе, абвастрылі хранічныя і справакавалі новыя хваробы, – заявіла Гарбунова. –

Нам давядзецца несці новыя партрэты да пасольстваў, запальваць новыя свечкі і расказваць пра новых ахвяр рэжыму на мітынгах, канферэнцыях, падчас сустрэч з замежнымі палітыкамі. Гэта не вырашае праблему таго, што ў трэцім тысячагоддзі, у геаграфічным цэнтры Еўропы людзі працягваюць паміраць ад катаванняў. Але мы будзем працягваць шукаць шляхі вызвалення ўсіх палітзняволеных".

novychas.online

адукацыя

# ЕГУ ХОЧУЦЬ ПРЫЗНАЦЬ ЭКСТРЭМІСЦКАЙ АРГАНІЗАЦЫЯЙ

Апошнія заявы прапагандыстаў гучаць дакладна не на карысць значнай часткі беларускай дыяспары ў Літве – студэнтаў і выкладчыкаў Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Іх, больш за 1600 чалавек, раскіданых у тым ліку і па іншых краінах, цяпер абяцаюць дадаць у спіс экстрэмістаў. Чым гэта небяспечна, і ці сутыкаюцца беларусы ды беларускі з ціскам праз навучанне ў "недружалюбнай" установе адукацыі?



Сцягі Беларусі, Літвы і Еўразвязу на ўваходзе ў ЕГУ. Фота EHU Official

### Што адбылося?

8 студзеня прапагандыст Ігар Тур у сваёй рубрыцы "Будзе дапоўнена" на дзяржаўным тэлеканале АНТ выказаў меркаванне, што ў хуткім часе Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт, што знаходзіцца ў Вільні, будзе абавязкова прызнаны экстрэмісцкай некамерцыйнай арганізацыяй. Асноўнай прычынай рашэння Тур называе пачатак супрацоўніцтва ЕГУ з Офісам Святланы Ціханоўскай, які раней быў прызнаны экстрэмісцкім у Беларусі. Паводле слоў прапагандыста, ЕГУ нібыта страціў усё фінансаванне ад партнёраў з ЕС і Літвы, а слухачы ды выкладчыкі разам выступаюць супраць узаемаадносін з лідаркай Дэмакратычных сіл.

"Як па мне, прызнанне ЕГУ ў Беларусі экстрэмісцкай арганізацыяй – гэта пытанне часу. Бо ЕГУ даўно перастаў быць ВНУ, а стаў проста дэструктыўнай НКА. Вы, дарагія, усё роўна апыняецеся ў пункце, калі з'явіцца закон, а падабаецца ён вам ці не, не мае сэнсу. Вы яго альбо парушыце і панесяце пакаранне, альбо паспееце забраць дакументы і ад гэтага ЕГУ адхрысціцца", – заявіў прапагандыст.

Тур у сваёй 8-хвілiннай перадачы падкрэслівае, што ЕГУ не дае дзецям адукацыю, а "прафесійна вучыць пратэставаць", называе факультэты "Медыя і камунікацыя", "Сусветная палітыка" ды "Еўрапейская спадчына" "балабонствам, а не навукамі", а студэнтаў пасля прызнання ўніверсітэта экстрэмісцкім – калабарантамі, якія атрымаюць у Беларусі тэрміны і "прысядуць" альбо не вернуцца на радзіму.

Напрыканцы прапагандыст дадаў, што часу, каб забраць дакументы, па яго адчуваннях, засталося вельмі няшмат.

### Якімі наступствамі небяспечнае рэальнае прызнанне ЕГУ экстрэмісцкім?

Па-першае, для юных беларусак і беларусаў, якія сёлета заканчваюць школы і каледжы, ЕГУ застаецца адным з добрых і найпрацейшых спосабаў атрымаць ліберальную адукацыю са свабодай думкі, атэстатам еўрапейскага ўзору, магчымасцю ўладкавацца на працу па спецыяльнасці і працягнуць жыць у краіне Еўрасаюза. Цяпер універсітэт аказвае поўнае асабістае суправаджэнне да атрымання шэнгенскай візы тыпу С у пусты пашпарт ці дазволу на жыхарства Літвы тэрмінам да двух гадоў: на яго можна падацца ў тым ліку знаходзячыся ў Беларусі.

Па-другое, гэта безумоўна створыць вялізныя праблемы для актуальных студэнтаў і выкладчыкаў ЕГУ. Паводле звестак за 2023 год, колькасць студэнтаў універсітэта перавышае 1500 чалавек, абсалютная большасць з якіх – беларусы, якія працягваюць жыць на радзіме ці перыядычна вяртаюцца з Літвы дадому. Што да выкладчыцкага складу, зыходзячы з дадзеных на сайце ЕГУ, арганізацыяй і вядзеннем навучальнага працэсу цяпер займаюцца 130 супрацоўнікаў. І калі спісы студэнтаў агалошваюцца выключна па студэнцкай пошце, то імёны ды прозвішчы прафесараў, лектараў, менеджараў публічна агучаны на сайце ўніверсітэта, што аўтаматычна зробіць іх "экстрэмістамі". (Так, некаторыя выкладчыкі таксама маглі вяртацца ў Беларусь).

Сесіі ў ЕГУ ўжо некалькі гадоў праходзяць дыстанцыйна, у фармаце творчых работ ці анлайн-канферэнцый у Zoom. Гэта зроблена для спрашчэння ўмоў тых беларусаў, што не пераехалі ў ЕС, зніжэння рызыкі ад лішніх праходжанняў мяжы і агульнай зручнасці. Да таго ж, сярод навучэнцаў прысутнічаюць і еўрапейска-арыентаваныя грамадзяне Расіі, у якіх з атрыманнем візы справы абстаяць значна цяжэй.

Патэнцыйная ідэнтыфікацыя студэнтаў можа праходзіць праз дазволы на жыхарства і нацыянальныя візы тыпу D, выдачу якіх Літва прыпыніла ў жніўні 2023 года. На іх прапісана слова "Studentas", што практычна ў 100% выпадкаў сведчыць пра навучанне ў ЕГУ, асабліва з улікам колькасці беларускіх студэнтаў у параўнанні з іншымі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі Літвы.

Менавіта з такім выпадкам ужо сутыкнулася наша чытачка і студэнтка ЕГУ Леся (імя зменена дзеля бяспекі). Дзяўчына падзялілася сваёй гісторыяй пра ціск падчас праходжання адной з беларуска-літоўскіх мытняў перад дзяржаўным святам па прыкмеце студэнцтва ў "недружалюбным" універсітэце:

"У мяне ўзялі пашпарт, убачылі, што ў мяне студэнцкая віза і адразу павялі на допыт. Спыталі, дзе я навучаюся – я адказала, што ў ЕГУ, і яны адразу пачалі даглядаць тэлефон і задаваць пытанні".

Паводле слоў Лесі, супрацоўнік у цывільным адразу запытаў, ці разумее яна, што "ў нас у краіне да іх ВНУ стаўленне… не вельмі…".

"Калі яны дазналіся, што я студэнтка ЕГУ, мяне сталі дапытваць: "Ці маеце вы дачыненні са Святланай Ціханоўскай, ці здымаецеся вы з ёй разам у відэа?" Пачалі шукаць у кантактах яе нумар, падрабязна пыталі, якіх журналістаў я ведаю, ці здымаю я якія-небудзь цік-токі апазіцыйныя, у такім духу", – адзначыла дзяўчына.

Агулам у памяшканні для дадатковага дагляду яе пратрымалі каля 40 хвілін, з улікам таго, што звонку стаяла вялікая чарга аўтобусаў і ўсе пасажыры прайшлі пашпартны кантроль. Увесь гэты час людзі ў цывільным задавалі шмат пытанняў пра сяброў з Украіны, полк Кастуся Каліноўскага, універсітэцкія чаты і суполкі. Але Леся лічыць, што не варта весціся на пагрозы прапагандыстаў, і не збіраецца адлічвацца з універсітэта.

Цяпер студэнтам ЕГУ варта выконваць максімальную асцярожнасць пры праходжанні мытняў з краінамі ЕС, чысціць чаты ці выдаляць акаўнт з вучэбнымі суполкамі, карыстацца запрашэннямі ў іншыя ВНУ, па магчымасці ўстрымацца ад паездак у Беларусь.

**Станіслаў Менскі, novychas.online**

# ПАД ЭГІДАЙ ЕГУ ВЫЙШАЎ НОВЫ ТОМ СЕРЫІ "РУСЬ, ЛІТВА, АРДА Ў ПОМНІКАХ НУМІЗМАТЫКІ І СФРАГІСТЫКІ"

Пад эгідай ЕГУ выйшаў новы том серыі "Русь, Літва, Арда ў помніках нумізматыкі і сфрагістыкі", засяроджаны на гістарычным кантэксце Заходняй Русі ў перыяд Сярэднявечча.

У выпуск увайшлі матэрыялы па валынскай, тураўскай, чарнігаўскай, полацкай сфрагістыцы XI–XIII стст., а таксама па нумізматыцы земляў былой Кіеўскай Русі па мангольскім заборы, што пазней увайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага, і тых, што знаходзіліся пад беспасярэднім уплывам Джучыдаў.

Выпуск складзены па-беларуску і па-ўкраінску і прызначаны для гісторыкаў, археолагаў, нумізматаў і сфрагістаў, музейных работнікаў і калекцыянераў, а таксама для шырокага кола чытачоў, што цікавяцца гістарычнымі крыніцамі перыяду Сярэднявечча.

**be.ehu.lt**



**навіны**

# У ВІЛЬНІ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ УДЗЕЛЬНІКАЎ ПАЎСТАННЯ КАЛІНОЎСКАГА

Святлана Ціханоўская:
"Як у 19 стагоддзі нашыя народы выбралі свабоду, а не рабства, так і сёння нашыя народы супольна разам супрацьстаяць адзінаму ворагу"

У нядзелю, 21 студзеня, на могілках Росы ў Вільні прайшла акцыя ўшанавання герояў паўстання 1863-1864 года. Удзел у ёй узялі лідарка дэмакратычных сіл Беларусі Святлана Ціханоўская, прэзідэнт Літвы Гітанас Наўседа, прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда, амбасадар Украіны Пятро Бешта.

Наўседа падкрэсліў важнасць гэтай гістарычнай падзеі.

Тое, што народы аб'ядналіся, каб аказаць супраціў Расейскай імперыі. І асабліва падкрэсліў, што нашыя народы адзіныя, і гэта важна і праз гады – падтрымліваць Украіну і Беларусь.

На мерапрыемства прыйшлі шмат беларусаў. Як паведаміў карэспандэнт "Салідарнасці" з месца падзеі, усіх спікераў перакладалі на літоўскую. Святлана Ціханоўская распавядала на роднай мове:

"Як у 19 стагоддзі нашыя народы выбралі свабоду, а не рабства, дэмакратыю, а не тыранію, так і сёння нашыя народы супольна разам супрацьстаяць Расейскай імперыі і адзінаму ворагу".

Але яна перакананая, што ў Расеі нічога не атрымаецца і тыранія не выйграе. Выйграе акурат дэмакратыя.

Пасля ўскладання ў капліцы кветак ад чатырох дзяржаў, кожны з чатырох прадстаўнікоў краін сказаў сваю прамову, далей быў вайсковы салют, і наведаць капліцу змаглі ўсе ахвочыя. У прыватнасці, на могілках была вялікая беларуская дыяспара. Актывісты ўсклалі кветкі да месцаў пахавання Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў.

У капліцы на віленскіх Росах у 2019 годзе перапавахалі парэшткі Кастуся Каліноўскага і іншых паўстанцаў, знойдзеныя на Замкавай гары.

**gazetaby.info**




# ВЫЦІНАНКАВАЯ ТЭРАПІЯ АД ВОЛЬГІ ПАЛУНІЦЫ

Выстава і майстар-клас ад мастачкі выцінанкі Вольгі Палуніцы (Бабурынай) прайшла на праваслаўнае Раство ў грамадскай ўале Сабора Св. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку.



Вольга Палуніца – знакамітая беларуская мастачка, якая каля 10 гадоў кіравала секцыяй выцінанкі Беларускага саюза майстроў народнай творчасці і значна больш гадоў стварае мастацкія творы, удзельнічае ў праектах і выставах, дзе прадстаўляла Беларусь у міжнародных конкурсах. Пасля падзей 2020 года мастачка стала жыве і працуе ў ЗША.

На майстар-клас прыйшло больш дарослых, чым дзяцей. Але ўсе былі ўражаныя і казалі, што акунуліся нібыта ў дзяцінства. Адзін з удзельнікаў імпрэзы па выцінанцы Валер Мінец зазначыў, што ён адпачыў душой і не дарэмна правёў паўтары гадзіны за сталом з паперай, нажніцамі і клеем у руках.

– Для мяне гэта была сапраўдная тэрапія. Было вельмі цёпла, утульна і па-сяброўску. Я сядзеў з нажніцамі і проста адчуў нейкую казачную магію падчас выразання елачкі, – падкрэсліў Валер Мінец.

Год таму Вольга Палуніца ўжо праводзіла майстар – клас і выстаўляла свае выцінаначныя працы валадароў ВКЛ у грамадскай зале Сабора Св. Кірылы Тураўскага. На гэты раз мастачка прадставіла працы на розныя тэмы, сярод якія былі такія працы як "Правы чалавека" і "Рабства".

Мастачка зноў распавяла пра гісторыю выцінанкі ў нашых продкаў, якая налічвае шмат стагоддзяў.

– У IX–XII стагоддзях у старажытнай Беларусі на вопратцы праразалі геаметрычныя ўзорчыкі, якія былі абярэжнымі. Гэтая мастацтва абсалютна суадносіцца з тэхналогіяй выцінанкі. Потым у ВКЛ выразалі кустодзіі, але гэта было мастацтва для заможных людзей. А пазней з Заходняй Еўропы прыйшло сілуэтнае выразанне, – распавяла Вольга Бабурына.

Усе жадаючыя мелі магчымасць набыць унікальныя творы мастачкі.

**Алесь Пазьняк, bielarus.info**

навіны

# ПАДЛЯШША Ў АБ'ЕКТЫВЕ

17 снежня ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы былі падведзены вынікі 19-га Агульнапольскага фотаконкурсу "Падляшша ў аб'ектыве" імя Віктара Волкава. Узялі ў ім удзел 150 аўтараў з усяе Польшчы. Агулам прыслалі яны 405 фотаздымкаў.

Дасланыя працы ацэньвалі прафесійныя фатографы, сябры памерлага дванаццаць гадоў таму незабыўнага Віктара Волкава. Гэта аўтарка фільмаў аб прыродзе Бажэна Валенцік, журналіст і падарожнік Тамаш Класоўскі, ляснік і кінарэжысёр Яраслаў Хыра і фотарэпарцёр Міхал Косць.

Як кожны год на конкурсных фотаздымках прадстаўлены былі архітэктура, прырода і людзі. На іх відаць таксама як мяняецца Падляшша. Штораз менш ужо традыцыйнага краявіду ды ідылічнай вясковасці як на займальных здымках Волкава. Ідзе новае, якое не такое прывабнае. Таму журы аценяла конкурсныя працы перадусім з мастацкага боку, шукаючы ў іх нейкай глыбейшай думкі і рэфлексіі.

– Гэта свята фатаграфіі, якое славіць наш Падляшскі рэгіён, – сказала старшыня журы Бажэна Валенцік праз відэа, паколькі не магла асабіста прысутнічаць ва ўрачыстасці.



І-ая ўзнагарода. З серыі "Адзінокія жанчыны". Фота Паўла Баўтручука з Гайнаўкі

Лаўрэатам першай прэміі ў конкурсе стаў Павел Баўтручук з Гайнаўкі за серыю фотаздымкаў – партрэтаў самотных жанчын. Другую прэмію атрымаў Міхал Сасніцкі з Завоі каля Жыўца ў Бескідах, трэцюю – Яраслаў Якубчак з Крынак.

Арганізатарам фотаконкурсу з'яўляецца беларускі музей у Гайнаўцы пры фінансавай падтрымцы Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, таксама горада Гайнаўка, Гайнаўскага павета ды іншых спонсараў.

czasopis.pl

# ФІЛОСАФКА ВОЛЬГА ШПАРАГА АТРЫМАЛА ПРЭМІЮ ВАЛЬТЭРА



Філосафка і аўтарка кнігі "У рэвалюцыі жаночае аблічча. Выпадак Беларусі" Вольга Шпарага на навагоднім прыёме ў Патсдамскім універсітэце атрымала "Прэмію Вальтэра за талерантнасць, міжнароднае разуменне і павагу адрозненняў". Універсітэт уручае гэтую прэмію з 2017 года. Сёлета ўпершыню яе атрымала беларуска.

"Атрымала ўчора прэмію Вальтэра – The Voltaire Prize for Tolerance, International Understanding and Respect for Differences – ва ўніверсітэце Патсдама. Пакуль вось неафіцыйныя фота, неўзабаве зраблю спасылку на афіцыйныя і сваю прамову. Яна была пра сітуацыю ў Беларусі, і вядома, пра беларускіх жанчын. Спадзяюся, усё гэта ў падтрымку нашай бачнасці, прынамсі ў нямецкамоўнай прасторы. І ў падтрымку ўсіх нас, пра што я і казала ў прамове", – напісала Вольга Шпарага на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

Вольга Шпарага нарадзілася ў 1974 годзе, вывучала філасофію ў Беларускім дзяржаўным універсітэце і Рурскім універсітэце г. Бохума. Кандыдатка філасофскіх навук. Аўтарка трох манаграфій. Яе трэцяя кніга "У рэвалюцыі жаночае аблічча: выпадак Беларусі" выйшла ў чэрвені 2021 года ў нямецкім выдавецтве Suhrkamp і стала бестселерам. У 2014 годзе Вольга Шпарага ўвайшла ў групу заснавальнікаў Еўрапейскага каледжа Liberal Arts у Беларусі (ECLAB), а ў жніўні 2020 года стала сузаснавальніцай Фемгрупы Каардынацыйнай рады беларускай апазіцыі і Офіса па адукацыі для новай Беларусі. Цяпер жыве ў Берліне.

budzma.org



ЛІТАРАТУРНЫ КОНКУРС
ДА 100-ГОДДЗЯ ВАСІЛЯ БЫКАВА
МІЖНАРОДНЫ САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

конкурс

# АБВЯШЧАНЫ КОНКУРС РУКАПІСАЎ ДА 100-ГОДДЗЯ ВАСІЛЯ БЫКАВА. ПРЫЗ – ВЫДАННЕ КНІГІ

Міжнародны саюз беларускіх пісьменнікаў абвяшчае Літаратурны конкурс да 100-годдзя Васіля Быкава.

Да ўдзелу запрашаюцца маладыя аўтары і аўтаркі да 35 гадоў, што працуюць у жанрах прозы, эсэістыкі і публіцыстыкі. Мова твораў – беларуская, тэматыка твораў не абмежаваная.

Як паўдзельнічаць? Дашліце рукапіс сваёй кнігі ў фармаце .docx(.doc) на адрас: bellit.info@gmail.com з пазнакай «Конкурс», а таксама далучыце анатацыю, сваё фота і кароткую аўтабіяграфію.

Аб'ём рукапісу не абмяжоўваецца.

ДЭДЛАЙН – 1 чэрвеня 2024 г.

Падсумаванне вынікаў і абвяшчэнне пераможцаў адбудзецца 19 чэрвеня, у дзень народзінаў Васіля Быкава.

Bellit.info

навіны

# КАЛЯДНАЯ ЯЛІНКА – 2024 У НЬЮ-ЁРКУ

У грамадскай зале Сабора Св. Кірылы Тураўскага на Атлантык-авеню, 401 у Брукліне штогод праз тыдзень пасля Калядаў адбываецца Каляднае свята для маленькіх беларусаў. У гэты дзень у залі асноўную частку прысутных складаюць дзеці розных узростаў.



З прыемнасцю думаецца, што беларускае жыццё ў Нью-Ёрку не затухне, што падрастае наша змена, якая пяройме наш клопат і пра гэтую залу і пра цэлы гэты набыты паваеннай эміграцыяй будынак, што стаўся дзейсным Беларускім цэнтрам у “сталіцы свету”. Гэтыя дзеці прыйшлі з бацькамі на свята менавіта ў Беларускі цэнтр, і тое дае надзею, што бацькі выхоўваюць іх у нацыянальнай самасвядомасці, што яны захаваюцца на чужыне беларусамі.

Сёлета ялінка адбывалася 14 студзеня і выдалася асабліва цікаваю. БАЗА запрасіла ў госці добра знаёмага дзеткам і іх бацькам выбітнага чалавека, якога называюць сярод беларусаў мілагучным імем – Маляваныч. Аляксандр Ждановіч, вядомы беларускі актор, доўгі час працаваў у Тэатры імя М. Горкага ў Менску. А беларускай дзятве ён найбольш падабаўся ў ролі вядоўцы знакамітай “Калыханкі” – вечаровай перадачы для дзяцей на беларускім тэлебачанні. Пад імем Маляваныч ён вёў гэтую папулярную перадачу з 1996 па 2015 год. Пад ягоным уплывам выраслі некаторыя з тых бацькоў, якія прывялі да нас сваіх дзяцей, каб сустрэцца з іх улюбёным артыстам. Сёння Аляксандр працягвае працаваць з дзецьмі праз інтэрнэт і некаторыя з сённяшніх дзетак ужо пазнавалі яго. Адна дзяўчынка моцна пакрыўдзілася на артыста, чаму ён тут яе не пазнаў, бо яна ж глядзіць ягоныя перадачы і сама яна яго пазнала.

Артыст прыехаў да нас з Грузіі, дзе ён зараз жыве пасля таго як вымушаны быў у 2020 годзе пакінуць Беларусь. Ён быў звольнены з тэатра, таксама яго арыштоўвалі ў Беларусі і ён адседзеў у ізалятары.

Вельмі цікава было назіраць, як Маляваныч таленавіта можа працаваць з дзецьмі, як яны яго слухаюць, як паўтараюць усе ягоныя рухі, выконваюць ягоныя просьбы. Артыст цалкам вёў усю святочную праграму, усім было весела – і дзецям і дарослым. Асабліва цікаваю была батлейка, артыст прывёз з сабою ўвесь патрэбны рыштунак для спектакля. Традыцыйная батлекавая дзея была пададзеная з акцэнтам на сучасныя падзеі ў Беларусі. Вечная тэма змагання дабра са злом гучала надзвычай актуальна, знаёмы сіпаты голас адназначна указваў на носьбіта зла, якое ўрэшце было пераможана.

Царкоўны хор пад кіраўніцтвам Алены Рыдзеўскай падрыхтаваў да свята вядомыя беларускія калядкі, якія вельмі спадабаліся прысутным, стварылі пачуццё радасці і надзеі з нагоды Божага Нараджэння. Прыбраная цацкамі і каляровымі гірляндамі ялінка ўпрыгожвала залю і прыцягвала да сябе самых маленькіх. Дзеці весяліліся ўволю ў прасторнай зале, бо дома ў кватэрах не маюць такой свабоды. Таццяна Красоўская з дапамогаю сяброваў БАЗА падрыхтавала смачны святочны абед і салодкі пачастунак.

І нарэшце наступіў самы ўрачысты момант, які так нецярпліва чакалі прысутныя. На свята да дзятвы завітаў Святы Мікалай з падарункамі, ён прывёў з сабою свайго маленькага памочніка. Сынок спадарства Кудзелічаў у чырвона-белым касцюмчыку выглядаў вельмі міла і прыгожа.

Але падарункі Святы Мікалай даваў толькі тым, хто раскажа верш, ці спяе песеньку, ці патанчыць. Дзеткі стараліся, як маглі, і ўсе атрымалі салодкія падарункі.

А дарослыя тым часам бавіліся сяброўскімі размовамі, радаваліся сустрэчам з сябрамі, набывалі новых знаёмых і трохі прыглядалі за дзецьмі, каб дапамагчы Маляванычу.

Зала была поўная, але месца ўсім хапала, каб і пачаставацца, і паглядзець цудоўную выставу ў зале, дзе дэманстраваліся мастацкія выцінанкі Вольгі Палуніцы, што нядаўна ладзіла тут майстар-клас.

Час прабягаў незаўважна, весяліліся да самага вечара, нават не хацелася разыходзіцца.

Выгляд пустой залы пасля выклікаў сум, што трэба яшчэ цэлы год чакаць да наступных Калядаў. Але было і цёпла на душы, што наша праца па падрыхтоўцы свята не была дарэмнаю, што было людна і весела, што гэта прынесла радасць нашым людзям, што паспрыяла далучэнню дзяцей да нашай беларускай культуры, да нашых традыцый, да нашага грамадскага жыцця.

**Ганна Сурмач, bielarus.info**

# У ПОЛЬШЧЫ ВЫЙШАЎ СПЕЦВЫПУСК ГІСТАРЫЧНАГА ЧАСОПІСА, ПРЫСВЕЧАНЫ ПАЎСТАННЮ КАЛІНОЎСКАГА




У Польшчы ў продажы з’явіўся спецвыпуск папулярнага гістарычнага часопіса “Mowia Wieki”, прысвечаны Кастусю Каліноўскаму і паўстанню 1863-1864 гадоў. Выпуск называецца “Кастусь Каліноўскі і студзеньскае паўстанне на беларускіх землях”.

Спецвыпуск часопіса двухмоўны – па-польску і па-беларуску.

“У Польшчы вельмі шмат гістарычных часопісаў. Надзіва шмат. Я купляў розныя, але па выніку яшчэ год назад спыніўся якраз на Mówią Wieki. І падбор тэм, і іх асвятленне ў гэтым часопісе заўсёды цікавыя. Але без жаўціззны. Таму асабліва прыемна, што калабарацыя з’явілася менавіта ў гэтым выданні. Дзякуй усім датычным! Тэксты ў нумары цікавыя, аўтары аўтарытэтныя, таму шчыра заахвочваю набываць”, – так анансаваў спецвыпуск гісторык Цімафей Акудовіч на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

Сярод аўтараў нумара – Аляксандр Смалянчук, Андрэй Чарнякевіч, Язэп Янушкевіч, Адам Булава, Сяргей Токць і інш.

**budzma.org**

**in memoriam**

# ПАМЁР ДЗЕЯЧ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ Ў ЗША КАСТУСЬ ВЕРАБЕЙ

10 студзеня на 93-м годзе жыцця ў Нью-Ёрку памёр беларускі грамадскі дзеяч Кастусь Верабей (1931–2024), піша Беларускі інстытут навукі і мастацтва.

Кастусь Верабей нарадзіўся 25 верасня 1931 года ў вёсцы Іванкавічы (цяпер Баранавіцкі раён Берасцейскай вобл.). Паходзіў з заможнай сялянскай сям'і. Бацька быў солтысам.

Пра жыццё пад савецкай уладай спадар Кастусь згадваў:

"На тыя часы жылі мы даволі заможна, пры канцы 1930-х мелі чатыры каровы. Былі ў спісе на вываз у Сібір, насушылі пяць мяхоў сухароў, прыгатавалі два мяхі з сырамі. І калі б не вайна, паехалі б услед за тымі чатырма-пяцьцю іванкавіцкімі сем'ямі".

У часе нямецкай акупацыі з вёскі давялося перабрацца ў Баранавічы, каб унікнуць ціску партызанаў.

Ва ўспамінах захаваўся такі эпізод:

"Тры партызаны разам прыйшлі ў нашую хату па бацькавы боты. Матка прынесла ім боты, адзін пачынае іх апранаць, а другі крычыць: "У яго ёсць лепшыя! Няхай аддае лепшыя!" Матка нясе лепшыя. "Аддавай зброю, што засталася табе ад саветаў!", – не супакойваюцца нязваныя госці. Ніякай зброі ў нашай хаце, канечне, не было, але на гэтым здзекі не скончыліся: "Аддавай свайго нямецкага каня!" Маці пачынае даказваць, што конь сваёй гадоўлі, хоць і вялікі, але ніякі не нямецкі! Усё роўна аддавай! Забралі яны таго каня, але доўга на ім не праехалі: ён скінуў з сябе партызана й вярнуўся да нас".

У 1944 годзе разам з бацькоўскай сям'ёй Кастусь Верабей выехаў у Нямеччыну. Па сканчэнні вайны апынуўся ў беларускім лагеры DP у Ватэнштэце.

Вучыўся ў беларускай гімназіі, браў удзел у скаўтынгу. З успамінаў:

"Менавіта ў Ватэнштэце я бліжэй пазнаёміўся з беларускай гісторыяй, мовай, літаратурай. Гэта былі незабыўныя часы ахвярнай і адданай працы на беларускай ніве. Тыя ж настаўнікі, якія вучылі нас у школе й гімназіі, працавалі задарма. … Збудавалі царкву, мелі пяць святароў, але ніхто не згаджаўся служыць у царкве па-беларуску. Пагадзіўся толькі адзін расеец Ражановіч, які да расейскіх словаў прымешваў крышачку беларускіх"…

У 1951 годзе Кастусь Верабей з бацькамі прыехаў у ЗША. Пасяліўся ў Нью-Ёрку. Спачатку працаваў "на фарме", потым на фірме па вырабе вокнаў. Шмат гадоў працаваў на дзяржаўнай працы: касіў траву, папраўляў дарогі, пілаваў дрэвы, чысціў снег і г. д.

Спадар Кастусь быў актыўным у беларускім царкоўным жыцці.

Ён згадваў:

"Да беларускага жыцця я далучаўся паволі. Чытаў абвесткі ў "Беларусе", дапамагаў у розных справах. Так, разам з іншымі маладымі хлопцамі прыводзіў да парадку будынак бруклінскай царквы, які спачатку быў у занядбаным стане. Вазіў па Нью-Ёрку епіскапа Васіля".

І яшчэ:

"Я быў сведкам усіх тых спрэчак, скандалаў, што ўнеслі раскол у беларускае рэлігійнае жыццё. Аднак сам удзелу ў іх не браў. Як раней, так і цяпер прыязджаю на службы ва ўсе беларускія прыходы, не зважаючы на назвы, прывязкі да таго ці іншага патрыярхату".



Кастусь Верабей пісаў зацемкі ў розныя эміграцыйныя перыёдыкі, найперш, газету "Беларус". Быў сябрам Беларуска-Амерыканскага задзіночання. У 1982–1993 гадах быў сябрам управы Нью-Ёркскага аддзела арганізацыі. Доўгі час быў распаўсюднікам бюлетэню "Весткі й паведамленьні Ньюёрскага аддзелу БАЗА".

Кастусь Верабей быў пахаваны 20 студзеня на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Іст-Брансвіку побач з жонкай.

Успаміны спадара Кастуся на пачатку 2000-х запісаў журналіст Аляксандр Адзінец для сваёй кнігі "Беларуская эміграцыя: скрыжаванні лёсаў".

budzma.org

## Беларускі каляндар памятных дат на люты 2024 года

**3 лютага**
- 60 гадоў таму, у 1964-м, памёр Станіслаў Станкевіч, паэт, кнігавыдавец.

**4 лютага**
- 130 гадоў таму, у 1894-м, памёр Адам Гурыновіч, паэт, фальклarыст.
- 95 гадоў таму, у 1929-м, нарадзіўся Лявон Баразна, мастак. Памёр у 1972-м.
- 35 гадоў таму, у 1989-м, у Вільні адбыўся ўстаноўчы з'езд Таварыства Беларускай Культуры.

**6 лютага**
- 110 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Аркадзь Куляшоў, паэт. Памёр у 1978-м.

**8 лютага**
- 110 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Валянцін Таўлай, паэт. Памёр у 1947-м.

**9 лютага**
- 25 гадоў таму, у 1999-м, памёр Уладзімір Урбановіч, краязнавец, культуролаг.

**10 лютага**
- 115 гадоў таму, у 1909-м, памёр Эдвард Паўловіч, мастак, мемуарыст.

**11 лютага**
- 35 гадоў таму, у 1989-м, у Беластоку створаны Беларускі клуб.

**13 лютага**
- 40 гадоў таму, у 1984-м, памёр Язэп Найдзюк, выдавец, гісторык.

**14 лютага**
- 110 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Павел Масленікаў, мастак. Памёр у 1995-м.
- 35 гадоў таму, у 1989-м, памёр Вінцэнт Жук-Грышкевіч, гісторык, літаратуразнавец, старшыня Рады БНР.

**15 лютага**
- 200 гадоў таму, у 1824-м, нарадзіўся Антон Залескі, мастак. Памёр у 1885-м.

**18 лютага**
- 45 гадоў таму, у 1979-м, памёр Юрка Гаўрук, паэт.

**21 лютага**
- 85 гадоў таму, у 1939-м, памёр Вячаслаў Адамовіч, адзін з заснавальнікаў сялянскай партыі "Зялёны Дуб".
- 50 гадоў таму, у 1974-м, памёр Лявон Савёнак, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**22 лютага**
- 135 гадоў таму, у 1889-м, нарадзіўся Мікола Байкоў, мовазнавец.
- 35 гадоў таму, у 1989-м, у Беластоку заснаваны першы гурток Беларускага Аб'яднання Студэнтаў (БАС).

**25 лютага**
- 115 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Сяргей Дарожны (сапр. Серада), пісьменнік. Загінуў у 1943-м.
- 40 гадоў таму, у 1984-м, памёр Язэп Пітушка, дзеяч эміграцыі ў Канадзе.

**27 лютага**
- 160 гадоў таму, у 1864-м, павешаны Людвік Звяждоўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

**навіны**

# ГУРТ IRDORATH НАМІНАВАНЫ НА ПРЭМІЮ CELTCAST FANTASY AWARD У НІДЭРЛАНДАХ

Музыкі з фолк-гурта Irdorath з песняй "Зорамі", напісанай у калоніі і якая выйшла пасля іх вызвалення, тройчы намінаваныя на прэмію ў Нідэрландах.

"Вау! "Зорамі" двойчы трапляе ў лонг-ліст прэміі Celtcast Fantasy Award у Нідэрландах! Усяго Irdorath намінаваўся тройчы: "Найлепшае відэа", "Найлепшая песня" і "Найлепшае канцэртнае выступленне", – напісалі музыкі ў Instagram.

Нагадем, удзельнікаў беларускага музычнага фэнтэзі-фолк гурта Irdorath затрымалі 2 жніўня 2021 года.

Пазней іх прызналі вінаватымі паводле артыкула 342 КК ("Арганізацыя або падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх"). Уладзімір і Надзея Калачы атрымалі па 2 гады калоніі, Антон Шніп, Пётр і Юлія Марчанкі – па 1,5 года калоніі.

budzma.org

**Беларусы ў свеце**
№ 1 (260), студзень 2024
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com